




# СУТАРЭНЬНЕ



№ 14

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ

№ 14 КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“ № 14

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ

# СУТАРЭНЬНЕ

## АПАВЯДАНЬНІ

ВЫДАНЬНЕ ЦБ „МАЛАДНЯКА“
МЕНСК—1925

# СУТАРЭНЬНЕ

## I

Толькі-толькі яшчэ з-за стрэх камяніц міргнула сонца і нібы ў разьведку пусьціла першы свой прамень.

Горад яшчэ спаў.

Было ціха й пуста.

У завулку, у прыгарадзе, можна было-б спаткаць каго-колечы, ішоўшага шпаркімі крокамі, насупіўшы шапку на вочы і спадлоб'я паглядваючы ўперад. Пашукаўшы, можна было-б у яго знайсьці за паясьніцай нож.

Часамі павольна ізвозчык праедзе, і глуха пракоцяцца ўдары конскіх капытаў.

Бывае, што селянін прыедзе ў горад; затрашчыць яго панарад, кульгаючы прасунецца па бруку гоман; усхваціцца і крыху пазяўкае сабака.

Але сёньня было ціха. На вежы сонна пасоўваліся чорныя вусы—стрэлкі і нехаця паказвалі—палова пятай.

Гарысты завулак Ззарэчны быў населены дробнымі гандлярамі і заўсёды прачынаўся раней другіх, але цяпер яшчэ спаў. Толькі малады хлапчук, найбольш семнаццаці год, ня спаў.

Стаючы на асфальце, ён соладка пацягнуўся; твар яго быў бледны і толькі яскрава сьвя-

ціліся вадзяністыя, але цяпер заспаныя вочы. Шэрая зрэбная сарочка вырысоўвалася жоўтымі латкамі. Нагавіцы на ім былі ангельскага фасону, з манжэтамі. Адно бяда, яны былі яму завялікія,—паясьніца ўзьбіралася пад пахі.

Узяўшы ў свае худыя рукі мятлу з бляшанай пласьцінкай на канцы палкі, сышоў ён на брук і свой працоўны дзень пачаў чысткаю рыштвоў.

Пакуль зашавеляцца будні гарадзкога жыцьця, яму трэба ачысьціць свой квартал, паліць яго вадой. Аднаму цяжка. Але ня скардзіўся ён. Няма каму дапамагаць: ёсьць, маці, старэнькая ўжо, ёй і хадзіць неўмагату; другі год пашоў, як хварэе.

Рукі яе калоцяцца, вочы, упаўшыя, пазіраюць на нізкі столь, на сьцены, дзе палосамі красуецца плесень.

Двор цёмны. Высокія сьцены камяніц засланяюць сьвятло. У самым канцы двара віднеюцца невялікія дзьверы, якія вядуць у вузкі калідор. Па бакох чуланы. З правага боку—каменная драбіна ўніз і ўпіраецца ў аббітыя войлакам дзьверы.

Паставіўшы мятлу і рыдлёўку, адчыніў дзьверы,—пранёсься прыкры скрып.

Увашоўшы ў хату, ён адразу пачуў глухі дрыжачы голас маці:

— Нікодзімка, дай вады.

## II

Як скрынка, роўны, чатырохкантовы, пакой кідаўся ў вочы закапцелай гарбатай печкай. У кутку, якраз насупраць, вісеў хрыстос, увесь у павуціньні і па канту абцягнуты шэрым вышываным ручнікам.

Тут-жа вісеў портрэт Ільліча, зроблены на фоне крэмлёўскай сьцяны.

Стол сасновы, але ўжо пачарнеўшы,—стаяў недалёка ад дзьвярэй, з боку, ложак, на якім ляжала хворая маці Нікодзіма.

Уверсе, амаль што ля самай столі—два запыленых акенцы; яны якраз раўняліся з тротуарамі на вуліцы. На сьценах, здаецца, былі абоі, цяпер вылазіць напалову белая, напалову чырвоная цэгла.

Дзе-ні-дзе расклееныя афішы кіно-фільмаў: „Два чорных гроба или окровавленный кинжал“, „Будущее“, „Коварство и любовь“.

Нікодзім любіў хадзіць у кіно. І заўсёды, калі яму спадабаецца якая-небудзь фільма, ён, ідучы дамоў, зьдзіраў рэклямную афішу і вывешваў яе ў сваёй хаце.

Бывала пытаюцца ў яго:

— Дзе-ж ты бярэш грошы на білеты?

Ён, пакасіўшы вочы і прыняўшы як-бы сталы выгляд, памаўчаўшы, падыме галаву і сваім звонкім голасам заіграе:

— Білеты? О-го... Мой дзядька Іван служыць за „дэмонстратара“ ў „Гіганце“, ён мяне і праводзіць, — і тут вольна ўсьміхнецца, як-

бы над тым, што нават маглі падумаць—„ён купляе білеты“.

Нікодзім быў здаволены жыцьцём і ніколі ня скардзіўся і на яго ня сыкалі.

Дні праходзілі бязьзьменна...

Нікодзім пасябраваў з чырвонаармейцамі (недалёка стаяла Самарская дывізія) і заўсёды вольны час прагульваў у іх. Дапамагаў ім дармова прабрацца ў кіно, разам хадзілі на аэродром сачыць за гонкамі, разам разважалі аб дзяўчатах.

Як-бы ў знак сяброўства Нікодзім насіў „будзёнаўку“. Каб быць сталым, як і яго таварышы, Нікодзім здабыў сабе брытву і пачаў ачышчаць свой твар ад сухога валосься-моху.

Незадоўга пачалі яго чырвонаармейцы грамаце вучыць, і бязьмежная радасьць ахоплівала юнака, калі ён, прышоўшы дамоў, мог ужо прачытаць на афішы – „Будущее“, і маці, якая, здаецца, ужо ня можа адчуваць ні радасьці, ні смутку, усьміхнецца, паправіць свае сівыя валасы і поўнымі грудзьмі ўздыхне.

Быў ціхі вечар. Праз акно відаць было, што на вуліцы весела, неўгамонна.

Маці Нікодзіма, седзячы на ложку, вязала панчоху і пра сябе расказвала нейкае апавяданьне (а іх многа ведаюць нашы жанчыны-беларускі). Раптам убягае Нікодзім з паперай у руках і проста да маці:

— Глянь, глянь—гэта я пісаў!

Нязграбна, але без памылкі было выведзена: „Нікодзім Васільлевіч, мужчына 17 год“.

З матчыных рук вылецелі пруткі, яна ахапіла сынка, сьлёзы ўсплылі на вочы, яна горача пацалавала яго ў лоб, а сэрца паслухмяна сьціскалася. Ёй хацелася прачытаць, але яе толькі ўсьцешыў голас сына; літары ёй пападаліся такімі прыгожымі кручочкамі, якія могуць ашчасьлівіць прапаўшага чалавека.

Хаваючы за афішу свой рукапіс, Нікодзім цешыўся з сябе.

Настаўнік яго, палітрук Ягораў, параіў яму ўзяць прыклад з дачкі гаспадара, з Сары. Нікодзім абурана адказаў:

— З яе? Яна вучыцца ўжо ага-а, даўно, а дурань-жа!.. Вось, каб узяць цябе і яшчэ такога, дык дурнаты ў яе было-бы больш, як у абодвух вас. Я з ёй і гаварыць ня буду.

Ягораў усьміхнуўся і, пацiснуўшы плячо Нікодзіма, сказаў:

— Маладзец! З цябе будзе чалавек.

III

Нікодзім ня быў вясёлы, але адчуваў сябе добра, і нават нейкі ўздым апанаваў яго.

Учора пахаваў сваю маці і пасварыўся з сваякамі.

Нікодзім пахаваў сваю матку па сучаснаму, без папа.

— Добрыя хлопцы чырвонаармейцы!—казаў ён,—бо, каб не яны, ён ня ведаў-бы, што рабіць, а так—дамавіну зьбілі, коняй далі...

Народу ішло многа... Сваякі затое, ад злосьці, ня плакалі і ішлі з боку.

У той-жа дзень, у вечары, прышоў Нікодзім да гаспадара свайго, Рудармана, і папрасіў рашчот: вышла яму яшчэ 6 рублёў.

Не задумаўся ён над тым, з чаго цяпер будзе жыць, дзе працаваць, але Нікодзім стаў здаволены, што паквітаўся з Рударманам.

Апрыкрыла яму гэтая праца.

Узьдзеўшы сьвяточны парусінавы пінжак, паглянсаваўшы боты, прыхарашыўшыся, уклаўшы рукі ў кішэні, вышаў на вуліцу.

Ужо сшарэла. На вуліцах гарэлі электраліхтары. Паступова зьяўляўся сьвет у вітрынах. Па бруку носяцца аўто-машыны, ізвозчыкі... Газэтчыкі выкрыкваюць „апошнія навіны“.

На тротуарах народу многа, і ўсе яны якбы сьпяшаюцца, толькі Нікодзім ішоў павольна і, ад няма чаго рабіць, спыніцца ля якоенебудзь вітрыны, разглядае яе...

Раптам спаткаліся з ім Нупрэй і Ігнат, абое добрыя яго сябры. Зашлі ў піўную.

Даволі прасторны пакой здаваўся ад накуранага дыму цёмным. Неўгамонная гутарка, візг гармонікі, лязг шклянак—усё гэта калацілася разам з кіслым і дымным паветрам.

Нікодзім заказаў „пару“...

І Нікодзім, і Нупрэй, і Ігнат—усе сёньня з грашыма.

Нупрэй—чорнарабочы, дрывасек, гадоў дзевятнаццаці, адзеты быў чыста; малінавы галь-

штук прыдаваў яму нейкую сталасьць. Ігнат— аднагодак Нупрэю, але выглядае маладзей і твар чысты, бяз складак. Займаецца ён чысткаю ботаў на Віленскім вакзале.

Нікодзім толькі цяпер задумаўся над пытаньнем, што будзе далей? Расказаў аб сьмерці маткі, аб рашчоце, і цяпер можна было пачуць, як голас яго дрыжэў і вочы во-во гатовы былі акрапіць скроні сьлязой. Але іх прывабіў погляд маладых дзяўчат, якія сядзелі радам і пілі „ангельскую горкую". Слова за слова, усьмешка на ўсьмешку і сталы злучыліся—адна кампанія.

Яшчэ піва, яшчэ „горкая"—і стала весялей, сталі зусім блізкімі.

Страсануўшы сваёй чорнай кучаравай галавой, Ігнат ахапіў дзяўчыну і схіліў яе да сваіх губ. Нікодзім заказваў гарманістаму „Пупсік", Нупрэй—яшчэ „горкай".

Адчуўшы сябе вольным, самастойным—хочаш?—гуляй, ня хочаш—ня гуляй,—Нікодзім узяў бутэльку і пусьціў аб падлогу... Шкляны трэск прыцягнуў да сябе ўсіх „гасьцей" піўной. Завязалася сварка. Пашла ругатня.

Дзяўчаты адскочылі да люстэрка. Усім траім можна сьмела даць па гадоў трыццаць. Твар кожнай нахварбаваны. Адна ўся ў нейкіх балячках, і ад пудры гэтыя балячкі здаюцца падазронымі цёмна-шэрымі плямамі.

Хлопцы вывелі Нікодзіма, за імі выбеглі „дзяўчаты", уселіся на ізвазца і... да Нікодзіма.

Сутарэньне яго, хоць і цёмнае, можа і бруднае, але вольнае... Ня трэба будзе трымаць востра вуха, ніхто ня будзе перашкодай.

А на вуліцах усё таксама шмат народу, усё таксама неўгамонны гул, усё таксама шумлівае бязладзьдзе...

## IV

Прачнууўся Нікодзім адзін. Галава цяжкая, вочы сталі чырвонымі. Нікодзім здаваўся нейкім страшным: валасы ўскудлачаны. Пінжак, які быў чысьценькім і міла было глянуць вокам, цяпер увесь спэцканы, збэшчаны. У кішэнях ня было ўжо ні капейкі: успомніў, што апошнія два рублі аддаў Жэньцы. Ходзячы з кута ў кут, ён думаў: „што цяпер пачаць?"

А ўжо ўзьбіраўся поўдзень.

— Трэба як хутчэй кінуць гэтае сутарэньне, узяцца адразу за новую працу. Але якую працу? Дзе працаваць?..

Адразу ён надумаў пайсьці да сваякоў, але тут-жа ўспомніў, што яны з ім не ў ладох, што пахаваў мацеру не паіхняму. Пайсьці да чырвонаармейцаў—выяжджаюць у лягеры...

Шкода стала бедную матульку. Толькі цяпер ён пачуў, што яна патрэбна і што няма яе...

На вуліцы гручэлі падводы ламавікоў. Нікодзім ня чуў гэтага грукату. Ён рынуўся ў ложак, ахінуўся лахмоцьцямі і хацеў змагчы сябе, супакоіцца; ён нават на хвіліну затоіў

дух і пачуў ясна-ясна, у першы раз, як білася яго сэрца. Прад вачыма пачало вырысоўвацца поле, пажоўклае, бязьмежнае поле; пачала вырысоўвацца гара, высокая гара, абкіданая вострымі каменьнямі. Ён страсануўся, закрыў вочы і яскрава ўбачыў прад сабою сьвежую магілку матулі, яму здаецца, што яшчэ той жоўты сьвежы пясочак не пасьпела высушыць сонца... Вось і той каменьчык, які ён паклаў у нагах матчынай магілкі.

Нікодзім выбег на вуліцу... Не спатыкаліся яму знаёмыя...

А можа яго ня хочуць прызнаваць? Не, яго любяць, але змаглі-б і не пазнаць. Ён зьмяніўся. Стаў страшным; твар белы-белы, галава яго ўпала ў плечы...

Нікодзім думаў аб адным: дзе знайсьці якую працу, цяпер, ужо... Ён адчуваў, што гэта адразу зробіць яго інакшым і яму будзе лягчэй.

На рынку ён убачыў Мікіту з сякераю і пілой, які чакаў работы. Хацеў падыйсьці, пагаварыць, але яму здалося, што Мікіта ведае пра ўчарайшую гулянку і, сьціснуўшыся, ён пашоў далей.

На мосьце спыніўся прад газэтчыкам. Убачыў, як у гэтага старога разьбіраюць газэты, і ведаў ён, што калі хто чым гандлюе, той мае заробак і з яго жыве. І гэты газэтчык, ён-жа жыве таксама з заробку, і ў яго, мабыць, у хаце дзеці. Не, дзеці зарабляюць самі, а яго заробак—для яго.

А чаму ён крычыць аб газэце? І яго мала хто чуе, яго голас ужо стары, сіпаты.

А калі малады байчэй гукне, ён і прадасьць болей.

Гэта разважаньне ўзьвесяліла яго. Убачыўшы дзяўчынку-яўрэйку, якая прадавала ваксу і шнуркі, ён усьміхнуўся і падумаў:

„На вуліцах гразь, хто ў яе будзе ваксу купляць“, а вобраз старога газэтчыка такім добрым і шчасным маляваўся яму.

Па набераэжнай, тут-жа ўнізе, стаялі для продажы крыжы. Твар Нікодзіма нахмурыўся. Ён пачаў, як-бы ад холаду, дрыжаць...

Абапёрся аб пярылы маста, стаў углядацца ў рэчку. Раптам яго хтось стукнуў па плячы. Гэта быў яго дзядзька Іван (які працуе ў кіно). Ён быў п'яны... Адразу вылаяў Нікодзіма, чаму ня прыходзіць да яго, чаго бадзяецца. Нікодзім маўчаў.

Дзяздька чамусьці нечакана абхапіў яго, кінуўся цалаваць і праз сьлёзы вылятаді словы:

— Наша доля... Эх!.. хадзем.

А народ глядзіць і не зразумець яму таго болю, які пад сэрцам клякоча накіпам, не, не зразумець...

Зашлі яны ў піўную...

## V

Прачнуўся Нікодзім у дзядзькі. Зноў сябе адчувае дрэнна, галава шуміць, круціцца, цягне яго выпіць бутэльку, адну бутэльку піва,— стала-б лягчэй, праясьнілася-б у вачох.

Але дзядзька сьпяшауся атрымаць кіноафішы. Пашоў з ім і Нікодзім.

Было рана, і ў горадзе яшчэ не стаяў звычайна нясьціхаючы грукат.

У экспэдыцыі, дзе Іван атрымліваў афішы, хлопцы бралі для продажы газэты.

Прад вачыма Нікодзіма пачаў вырысоўвацца твар старога газэтчыка, якога ён бачыў на рынку. Яму здалося, што вось ужо ён прадае газэты .. у яго купляюць... вось ужо лічыць прыбытак... і нявольна на яго вуснах усплыла ўсьмешка.

Пры дапамозе дзядзькі Нікодзім дастаў для продажы 25 газэт.

Радасна, ахоплены бадзёрасьцю, выбег на вуліцу і голасна стаў выкрыкваць:

— Сьвежыя газэткі!

— У Заходняй Беларусі партызаны пусьцілі пад адкос цягнік!

— У Баўгарыі арыштоўваюць комуністых!

— У Менску думаюць пусьціць трамвай!..

З вуліцы на вуліцу ў захапленьні бегае Нікодзім і газэткі, акуратна склаўшы, носіць пад пахай.

Змогся бегаючы, зьнядужаў. Сеўшы на бульвары, пералічыў газэткі: усе—25.

„Чаму-ж так?“ падумаў Нікодзім, „у таго старога, ён сам бачыў, як бралі газэты, а ў яго?“

Пабег Нікодзім на рынак.

Ашчасьлівіўся тут: прадаў дзьве газэціны.

Павесялеў. Носіцца ля крам і стараецца прадаць яшчэ адну, яшчэ...

У надвечар у яго засталося сем газэтак.

Зашоў у піўную, узяў фаршыраванай рыбы, бутэльку піва, тымчасам прадаў гаспадару піўной, Моўшу, газэціну, паважна дзюбае відэльцам і ўсьміхаецца.

Тут і народ пачаў зьбірацца. Неўзабаве прышла і Жэнька, падсела да Нікодзіма.

Можа і рэдка бываюць такія гутаркі, але цяпер разгаварыліся, як хто жыве.

Нікодзім радасна запэўнівае, што ў яго ўжо заробак будзе. Жэнька ўсьміхаецца...

— Сьмяешся? Цяпер я ўжо знаю, куды насіць і як прадаваць газэты...

Жэнька ўзяла яго за падбародак, паласкатала і ласкава пачала ўгаварваць кінуць гэту дробязь, капейкі:

— Што ты заробіш за дзень?—20 капеек. Дурань, цябе трэба яшчэ вучыць, як жыць... У цябе твая хата, помніш, дзе я была, яшчэ ёсьць?

— Пакуль, але-ж, мусіць, трэба...

— Зноў дурань. Цяпер ня маюць права высяляць. Слухай-жа, што я хачу сказаць,— і яна схілілася да яго вуха:—за гэтыя нyшчасныя 20 капеек ты цэлы дзень бегаеш, высалапіўшы язык,—вочы на лоб павылазяць. Узяў-бы ты падшукаў хлапцоў з грашыма, прывёў да сябе, а там—я буду чакаць. І сама я каго-небудзь прывяду, а грошы?—Грошы

падзелім. Сыты будзеш і франтам добрым, файна? А так дурань будзеш.

Заказала бутэльку „горкай“.

Нікодзім згадзіўся. Жэнька падняла шклянку з гарэлкай:

— П‘ю, каб быць добрымі прыяцелямі.

VI

Цёмнае, сырое,—прытулак беднасьці—сутарэньне, дзе радзіўся Нікодзім, дзе памёр, загнаны працаю ў сухоты, бацька яго, дзе зусім нядаўна памерла і яго маці. Цяпер гэта сутарэньне стала гняздом распусты і заразы.

Чысьцей выглядае пакой: сьцены выбелены, падлога падмецена, але згінула чыстата хоць бязьмерна-цяжкога жыцьця. Калі падлога чысьцейшая, гэта ня знача, што няма бруду жыцьця, заразьлівага бруду, ад якога мятлой не пазбавішся.

Раней тут стаяў адзін ложак, цяпер ужо тры і, на ўсякі выпадак, ля парогу паложаны сяньнік...

Кожны дзень, як толькі зьвечарэе, не зачыняюцца дзьверы... Цяпер і прыводзіць ня трэба, абы хапіла дзяўчат. П‘янкі начамі.

Пасябравалі з Нікодзімам і гэроі лёгкіх заробкаў“;—у сутарэньні пачалі захоўвацца крадзеныя рэчы. Нікодзім ведаў і радваўся, захапляўся лоўкай удачаю.

Недалёка ад Нікодзіма, на Замкавай вуліцы, жыла Галена, дачка дворніка. Дзяўчына

маладая... Гарыць малінавым цьветам; стан роўны, прыгожы. Дапамагала яна бацьку падмятаць двор, вуліцу.

Нікодзім пачаў заходзіць да яе, яна рада была. Гуляць ходзяць разам; у кіно зойдуць, бывае, у тэатр забрыдуць.

Захварэў яе бацька, Нікодзім грашыма дапамагаў.

Палюбіла яго Галена і сумавала, ня бачыўшы яго. Думкі розныя наплывуць,—заплача Галена. Радасна білася сэрца яе, калі Нікодзім быў з ёю...

У прыемныя для сэрца, для жыцьця хвіліны... яна забылася... Але яна любіць Нікодзіма, і яна ня гублялася, яна ня плакала: Нікодзім казаў—возьме замуж.

Не падмануў, - ён прыходзіў і надалей, і яна жыла з ім, як ёй падшэптвала яе закаханае сэрца.

Але ашукалася сэрца дзявочае. Нікодзім ня ўмее любіць, Нікодзім нават ня ўмее паважаць, ня толькі цаніць чужога каханьня. Радзей стаў заходзіць да яе, а калі і прыдзе, дык і то п'яны.

Страшна стала дзяўчыне. На вачох яна марнее, сохне, а хутка і маткаю стане.

Дні праходзілі... Не прасыхалі яе вочы ад сьлёз. Бацька стаў скоса паглядваць,—падядае сэрца Галены, яна ўжо і сілы губляе...

Прыдзе думка—уцячы з хаты, але куды?— Усё роўна, абы ня быць дома, ня чуць, як сыкаюць свае родныя. А ў чым яна правінілася?

Паверыла таму, каго так любіла, каго і цяпер яшчэ,—не! цяпер яна яго зьненавідзела, але тады паверыла, бо ў яго вачох ня бачыла кпін, ня ўмела іх пазнаць.

Нікодзім ужо зусім не заходзіў.

Сядзіць Галенка над сталом, сьлёзы аблі-ваюць усплываючую думку:

„І што рабіць? Я зараз буду маткай... Буду мець сваё дзіцё, маленечкае, з шэрымі вочкамі. Воч ня сплюшчу, буду хадзіць мыць бялізну, але выгадую яго. Падрасьце, запытаецца: „а дзе мой тата?"—што я скажу? што? Згінуць разам, цяпер... Чаму так страшна? Хто-б параіў мне, хто-б сказаў мне ласкавае слова?.."

Пачуўшы топат бацькі, Галенка ўсхамянулася, узялася за працу. Але што-б ні рабіла, дзе-б ні была яна, думка адна: што рабіць?

У вечары, калі бацька заснуў, яна накінула на плечы хустку, вышла на вуліцу.

Пастаяўшы ля брамы, надумала зьбегаць да Нікодзіма:

— Што ён скажа; няўжо дазволіць загінуць? У яго-ж ёсьць сэрца, ён ведае, хто яна...

У вокнах яго было цёмна. Яна паціхеньку зашла ў двор, хацела ўбегчы ў хату, як пра-рэзьлівы голас гаспадара дому, Рудармана, затрымаў яе:

— Што, ізноў? Пашла вон, сьцерва прадажная! Ізноў запаскудзіць мне дом, ізноў пад страхой маёй хаты прытон робіце. Вон, а не— у міліцыю сьцягну!

Ня ведала Галена, скуль гэта валіцца, але, асьмеліўшыся, дрыжачым голасам загаварыла:

— Ды не, вы мыляецеся... Мне трэба па справах, да Нікодзіма!..

— У турму ідзі на сьвіданьне, а ня тут. Вон, прадажная... Тут ужо няма зладзеяў. Усіх пазабіралі. Вон...

Страсанулася Галенка. Сэрца замерла, прыціснулася да грудзей. Вочы застылі, кроў набягае ў твар.

Трымаючыся за сьцяну, ледзь-ледзь ішла. Яна не магла думаць,—колкі ў галаве абуджалі няўстрымны боль.

А ўжо пачыналася вясна. У рыштках бурлілі раўчакі .. Было цёпла-цёпла. Ветрык прыветліва лёгкім подыхам абвяваў твар; чуецца нейкае абуджэньне, радаснае абуджэньне, напаўняючае ўздымам жыцьця, бадзёрасьцю.

Галенка дрыжала, яна ішла дамоў, ня бачачы дарогі.

Сьлёзы, горкі плач рваў яе схудалыя грудзі...

Ня помніла яна, калі прышла ў хату, а ўжо пачынала было добра сьвітаць.

## VII

Даўно сышчыкі хадзілі ля сутарэньня Нікодзіма. Даўно сачылі за „афэрыстымі“ і, сабраўшы матэрыялы, выведаўшы сьцежкі,—прышлі і забралі ўсю кампанію: дзьве прастытуткі, трох зладзеяў, Нікодзіма і гасьця—сівога профэсара.

Засудзілі ўсіх (профэсара, праўда, пусьцілі), Нікодзіму далі год.

Галенка аб гэтым ня ведала. Можа яна, каб чытала газэты, даведалася-б аб гэтым, але так лепш... А зьмянілася зусім. Не пазнаць: вочы ўпалі, уся стала жоўтай і худою.

А хутка-хутка яна маткаю стане. Страх не адступаў ад яе... Бясконца сьлёзы.

Знашла ў куфры чыстую бацькаву бялізну, напісала запіску, падышла пад турму, аддала надзірацелю, заплакала.

Нікодзім атрымаў пасылку. Прачыталі яму запіску. Зашчаміла сэрца, прысеў на нары, апусьціў голаў,—шкода стала Галенкі. Узьняўся, глянуў у вакно і захацелася яму выляцець, дагнаць яе, кінуцца ёй у ногі, але—краты, моцныя краты!..

Камэра, у якой сядзеў Нікодзім, была прасторная, ды ў ёй было звыш нормы арыштаваных. Стаяла духата, за сабой яшчэ і не глядзяць,—брудна. Вечныя насьмешкі, выкрунтасы аднаго над другім Нікодзіму не давалі спакойна пасядзець, перанесьціся думкамі да Галенкі, папрасіць у яе прабачэньня, падзякаваць яе шчырае сэрца.

Нікодзім праклінаў цяпер тую хвіліну, калі спаткаўся з Жэнькай.

— Яна, і больш ніхто, вінавата,—яна разьбіла жыцьцё...

А думка аб сваім дзіцяці так сьціскала сэрца, так балюча і радасна білася ў грудзёх.

— Маё дзіцё? Але ці маю я права быць бацькам? Гадаваць яго, каб быў прапаўшым, як і я? Э эх!.. як бліскучасьць вабіць да сябе і

як мага блытае прад табою тваё жыцьцёвыя сьцежкі. Сядзець год, а там праз мяне ў недастачы, голадзе... Галенка, ці прымеш ты мяне?..

— Не? Чаму?..

Нікодзім мучаўся. Але адно яго адцягівала: ён працаваў у турэмнай шавецкай майстэрні. Працаваў уважна і за пяць месяцаў ён стаў ужо майстрам.

Усяго ён адседзеў сем месяцаў—папаў пад амністыю, выпусьцілі...

Вышаў з турмы, 14 рублёў заробку атрымаў... Куды ісьці? У які бок?

Гоман і суматоха вуліцы здавалася яму нечым надзвычайным, новым.

— Куды ісьці? А ці ня ўсё роўна? Пайсьці да Галенкі,—яна прагоніць. Хіба пайсьці даць ёй грошай і можа-можа глянуць вокам і, калі дазволіць, пацалаваць сваё дзіцянё, а тады ўцячы, каб не паказвацца.

Зашоў у пякарню, купіў булак і шпаркім крокам, не аглядваючыся на Замкавую,—да Галенкі.

Дома не застаў...

Вокны яе хаты забіты дошкамі, пасьвіствае вецер. Раскідана...

Працаваць Нікодзім стаў у майстэрні Боруха на Замкавай вуліцы. Ня можа супакоіцца:—„што з ёй? дзе яна?“.

Выпадкам, зусім выпадкам сустрэў Нікодзім Галенку. Яна яго не пазнала. Яна цяпер ґуляшчая—стала прастытуткай.

Абое прасьлязіліся, абое маўчалі. Нікодзім толькі сябе вініў ува ўсім, толькі сябе...

Галенка пачала расказваць, што яе прымусіла пайсьці і гандляваць... Прадаваць сябе..

— Радзіўся сынок... Тры дні жыў, тры дні... Вышла я з больніцы, бацькі дома няма, дзе ён цяпер, дзе ён дзеўся тады,—ня ведаю. Цябе няма, ты.. Што-ж было мне рабіць?—і раптам паднялася, выцерла вочы, глянула на Нікодзіма, як-бы абдумаўшы, цьвёрдым рашучым голасам прагаварыла:

— Ну, я іду. Бывай!

Нікодзім хапіў яе руку, стаў умальваць кінуць усё і цяпер жыць разам. Яна вырвалася, глянула яшчэ раз на яго і—пашла.

Нікодзім абліўся сьлязьмі. Нікодзім проста адчуваў цягучы, разрываючы сэрца боль...

Дома ў вечары ён ужо ляжаў п'яны і плакаў голасна, як дзіцё, як пакрыўджаная бяспрытульная дзяўчынка...

А за сьцяною рабочыя, з сталяліцейнага заводу граў на балалайцы, кучаравы белы сынок яго, прытупваючы нагой, танцаваў, маці з радаснай і шчасьлівай усьмешкай біла ў тахт далонямі...

# ПАЎЛО ПАЧАЧУЙ

Злуец а мітульгой сыпучаю падсьлепаваты асеньні вечар. Сёньня ён яшчэ больш пасябраваў з бяспрытульным брадзягай—ветрам і разам, сабраўшы сілу, націснуць на шырокаплечую камяніцу і, як, рызінавы мячык, няўдала адскакваюць назад. А вывеска нібы засьмяецца глухім бляшаным звонам, ня спыняючы крычаць: „акуляры, пэнснэ, манаклі"...

— Не ўдалося,—заскрыгатаў вецер, і абняўшыся з вечарам, пачалі аглядаць вітрыны, лізаць афішы ды гудзець дротам... Кінеш вокам у гару і здаецца—ціхую бяздомную цемень падпіраюць стрэхі, а вуліцы аблітыя гоманам, сьвіргочуць бурлівай жывасьцю.

— Алесь, ты куды размахнуўся?

— Ага, колега! здароў. Як бачу, ты вандруеш па Савецкай, „птушку" ловіш, а? Кінь, Нічыпар, кінь, ня раю, брат, страшна...

— Табе ўсё „шукаеш", а мо'...

— Так, так, тут і шукаць ня трэба, сама ў тваё сіло лезе. Хадзем лепш да Паўлюка, а там і ў кіно...

* * *

Алесь зусім яшчэ малады дзяцюк, комсамолец. Любяць яго. Заўсёды такі прыветлівы, працавіты і вясёлы да сьлёз. Нездарма-ж кажуць, што ў вясёлага і брыва адна карацейшая. З ім ніколі ня будзеш маўчаць, і цяпер, седзячы ў Паўлюка, гутарка неяк ня ўецца. Уздыхнуў Алесь, пацягнуўся, скрабануў патыліцу ды, ад няма чаго рабіць, распачаў як-бы гутарку:

— Ведаеце што, таварышы, я задумаў жаніцца!? І чаму? Няўжо я ня здолею жыць, як ты, Паўлюк, жывеш? Прыдуць, гэта, і да мяне хлапцы, жонка гарбатай пачастуе, пагаварыць прыемна...

— А дзяўчынку ўжо нагледзілі? — празьвінеў галасок маладой гаспадыні.

— Э, ды за гэтым ён у кішэнь не палезе. У яго каб быў толькі час, дык дзяўчат было-б, не раўнуючы, як вошаў...

Алесь абурыўся супроць такой антысанітарнасьці, а Паўлюк, усьміхаючыся, наводзіў на рэйкі:

— Усе вы, як я бачу, дзівакі; гэта-ж Алесь наконт гарбаты намякае.

Гаспадыня зараз-жа заварушылася.

Гутарка ў хлапцоў зьмянілася, і час бяжыць няпрыкметна, хутка...

Паркалёвым рукавам абцёршы пот, які выступіў ад гарбаты, Алесь, глянуўшы на Зіну, жонку Паўлюка, весела кінуў:

— Хто йдзе ў кіно? галасую.

Большасьць. Паўлюк застаўся дома.

Зіна заўважыла, што ён не ў настроі, ды Алесь усе яе думкі разагнаў. Як пачаў расказваць пра гісторыю „аднэй ночы", дзе сад пажоўклымі лісьцямі абурана шаптаў пра сваю зьнявагу,—расплываецца малады, здаровы сьмех, але ў глыбі душы Зінінай неспакой.

* * *

Невялічкі пакой. Чысьценька. Портрэт Леніна. Этажэрка кніжак.

Малады, сутулуваты, з упаўшымі шэрымі вачыма Паўлюк—гострыць нож.

Прамяньні сонца коўзаюцца па сталі.

Здаволены Паўлюк.

На твары яго ўсплывае радасьць, пакрытая прыемнымі пяшчотамі.

Раз, і... усадзіў нож у горла курыцы. З захапленьнем паглядае, як яна мкнецца вырвацца з яго рук, уцячы і згінуць, але толькі бяз мучэньняў.

Паўлюк няпрыкметна дрыжэў. Твар яго худы пакрываўся мяккай чырваньню, ён атрымліваў асалоду...

Зіна бачачы, як яго рука з такой лёгкасьцю адсякае голаў курыцы, пачала сьціскацца кастлявай жменяй боязьні.

А сонца гульліва нырыла на дно гарадзкога гоману і, як блізкі сябра (па натуры) Паўлюку, лезе ў вочы сваім валосьсем, якія калыша подых асеньняе раніцы.

Паўлюк пашоў на службу.

Дарогай ён здаволена паціраў рукі, з твару ня зьнікала вясёлая ўсьмешка, а ў хаце засталася Зіна задуменная...

* * *

Шырокі зьбіты брук пакрываўся першым сьнегам. Цёмна-шэрая вуліца пачынала харашэць, прыцягваць да сябе, зацікаўліваць.

Брудная камяніца радасна акуталася мяккімі сьняжынкамі. Прабяжыць ізвозчык, і хочацца спыніць яго бег. Дзьве доўгія чорныя палосы сярод белай тканіны і плямы ад конскіх капытаў, рабілі, з аднаго, боку даволі пекны ўзор, з другога—здавалася, нібы коламі расьціскаліся белыя грудзі маставой.

Паўлюк быў у хаце, зл(а)ваўся. Зіна пашла прайсьціся, як толькі халодным звонам застукалі ў акно сьняжынкі.

Ходзячы па завулку, ёй нявольна прыходзілася чуць шэпат елак з гарадзкога саду; як гэты бялюткі сьнег, як гэты серабрысты топаль—успаміны пачалі ўсплываць перад ёю, і толькі прыкры расьцягнуты гудок аўтомобіля абразіў Зініны думкі,—яны пакінулі яе. Яна раптоўна задрыжэла, мацней сьціснула куртку, пашла ў хату.

Паўлюк у злоснай задуменнасьці хадзіў па пакоі. Глянуў у вакно—бязьмежная цемень. Патушыў лямпу. Вузкі завулак быў ціхі. Мураваныя сьцены, здавалася, радасна ўздыхалі, вітаючы сьнежны баль. Было ціха,

прыемна... Але Паўлюк не адчуваў прыгожасьці зімовага цёплага вечару. Ён кусаў сабе губы, кулакамі сьціскаў сваю галаву, апускаў бровы, якія амаль не закрылі вочы, біў сябе ў грудзі, сэрца адказвала ўдарам, твар, як ад холаду, пакрываўся сінімі палосамі. Паўлюк дрыжэў, а вусны, дрыжачыя, сінія вусны ціха выкідвалі словы злосьці, абурэньня.

Пачуўшы скрып дзьвярэй, Паўлюк застыў на месцы.

— Ты ўжо прышоў?—і адказ нажом пралез у слабыя грудзі...

Вочы яго блішчэлі. Зіна маўчала.

Сеўшы на ложак, яна ўкрыла касою твар і слухала лаянку, голас свайго няшчасьця; бруілася ў ваччу сьляза гарачая, сэрца сьціскалася балюча.

Ціша... Істужка дыму калацілася ў пакоіку, пад акном падміргіваў серабрыстым вокам месяц, і толькі празырлівы трэск дзьвярэй страсануў Зіну.

— Пашоў?.. Што рабіць? Куды ісьці?

Ходзячы, як няпрытомная, з кутка ў куток, глядзела прытупеўшымі вачыма на сьцены.

— О, гэтыя сьцены! Толькі вы мне прымусам родныя. Але чаму вы маўчыцё? Парайце, што рабіць, што?

Родных, блізкіх... няма, у роднай старане—чужая... Куды ісьці?

Ей успомніўся Алесь, малады вясёлы Алесь. Думкі навальна ўсплывалі і ў сваіх хвалях затаплялі голаў.

— Не-е, мая галава ня стрывае. А вы, прагніўшыя сьцены, вы чуеце мае думкі, чуеце іх, чаму-ж вы маўчыцё? Чаму-ж вы не выпушчаеце іх на вуліцу? Мо‘ было-б лепш, каб хто іх падслухаў?..

Час плыў наперад...

Над галавою Зіны пярсьцёнкамі карагодзіў сон. А шэрым вокам глянула ў акно зара раніцы. Толькі цяпер прышоў Паўлюк і праз адну, ня больш дзьве хвіліны ўзарвалася моцнае „ай!..“

Паўлюк, лежачы з Зінай на ложку, выкручваў ей рукі. Твар яго наліўся, як яблыка, чырваньню. Паўлюк дрыжэў... Па целе расплываўся прыемны лоскат. Зіна больш ня крычала.

Зіна ведала, што ў гэтым прыемнасьць Паўлюку. І праўда, прашло дзьве, тры хвіліны, і Паўлюк ужо ляжаў як-бы размочаны, стомлены; яго ахапіла млявасьць.

На вуліцах дворнікі ўздымалі сьнег мётламі, ізвозчык, сьпяшаючыся на вакзал, пагукваў на каня, як-бы і павольна ўздымаючы гоман, узыходзіла гарадзкая раніца.

Паўлюк зноў пачаў сьціскаць Зіны рукі, абсыпаць яе пацалункамі і не таму, што гэта манера распусты, не, гэта чарговы этап нанесьці боль і атрымаць задаваленьне.

* * *

Паўлюк рэдка бываў у хаце, але і ў гэты кароткі час гаварыў з Зінаю хутчэй як з пакаёўкай, чым з сваім таварышом-жонкай.

Зіна маўчала. Але сёньня яна ня вытрымала і голасам, у якім адчувалася толькі шчырасьць, загаварыла:

— Паўлюк, ты добра ведаеш, што я тут, дзе ня кінь, чужая. Ні знаёмых, не кажу ўжо аб блізкіх. Няхай-бы ты хоць адзін вечар пабыў са мной, як чалавек, пашлі-б у клюб... Седзячы аднэй у гэтых сглеўшых сьценах, плесьняй агорнешся,—і вочы яе, чакаючы адказу, гатовы былі адразу праясьніцца, узрадавацца, або заслацца бруднай непагодай.

З нейкай дзіўнай усьмешкай, кінуўшы грошы на стол, Паўлюк запытаўся:

— Што, я не дазваляю?

Вырваўся ўсё-ж пасьля доўгага цярпеньня накіп з грудзей Зіны:

— Давай вырашым раз назаўсёды. Даволі мучыцца. Ня хочу быць слугой!..

— Пачынаецца .. Я проста прыдушаны працай.

— Ня веру я табе. Хвілінамі патрэбна я, каб супакоіць тваю хворасьць...

— Эт, сьцерва!

І з навалай злосьці хапіў падсьвечнік.

— Паўлюк!.. Сумленьне... дзе?..

Падсьвечнік прымусіў Зіну замаўчаць, яна кінулася на падлогу.

Добра, што прышла суседка, старая Казімірыха пазычаць сярнічак, яна і стала „скорай дапамогай“.

* * *

Алесь з Нічыпарам сядзелі ў сталоўцы.

Музыка шпарыла „фокстрот“...

Публіка падзваньвала ў шклянкі. Афіцыянты хвалявалі салфеткамі. Газэтчыкі выкрыквалі „апошнія“...

Хлопцы вячэралі. Дзяліліся ўражаньнямі за прашоўшы дзень.

Алесь выпадкова ўспомніў Зіну:

— Зваў ісьці ў тэатр, Паўлюк быў не ў настроі,—не пашла. Я-бы з ёй пагуляў, нічаво бабка, „спасобствует“...

— Так, трэба будзе й мне калі зайсьці, усё роўна жыву пад бокам,—і пры гэтым Нічыпар акінуў вокам Алеся і ўсьміхнуўся, як-бы думаючы: „нешта ёсьць“...

Была зорная ноч. Трашчоткамі зганялі сон вартаўнікі.

Хлопцы разышліся.

* * *

Разбудзілі Алеся.

Толькі 'шчэ пасьпелі расплюшчыцца вочы, Алесь убачыў прад сабой Нічыпара.

Блыталіся думкі ў Алеся, каб даведацца ў чым справа. А гадзіньнік спакойна, бяз нэрвозу адбівае пяць гадзін раніцы.

Толькі на вуліцы Алесь угледзіў ізвозчыка і... згорбіўшыся, укутаўшыся у паліто—Зіну.

Паехалі... А ўжо сьвітала...

— Ведаеце, Алесь, я хацела павесіцца.

Алесь усьміхнуўся.

— Я ня ведаю, што рабіць? Ён замучыць мяне...

Алесь, скрывіўшы твар, глянуў у вочы Зіне і яму здалося, што ён бачыць шыбельніцу з белай пятлёй, але тут-жа схамянуўся і пачаў угаварваць, супакойваць, разьвесяляць. А Зіна нэрвова ў руках пакручвае ручнік...

Усё-ж адвезьлі дамоў, супакоілі.

Толькі цяпер Нічыпар расказаў у чым справа.

— Я ўжо спаў. Раптам чую стук у вакно. Увашла і ў плач—„ратуйце!" Што з ёй рабіць? Жаніцца?—яшчэ рана. Я тады—на „кары" й да цябе. Дарогай скардзіцца, енчыць. Я думаў адно: калі перажыву гэту ноч—заўтра-ж катну ў Севастопаль. А пакуль што зараз-жа пераеду да бацькоў, на вакзал, а то такія „антымоніі" могуць збывацца штодня. Заўтра яна захоча труціцца, пасьлязаўтра—тапіцца...

Алесь нічога не сказаў. Так моўчкі і разьвіталіся.

* * *

Ня спаў Алесь. Думкі яго віліся з Зінай. Алесь штосьці думаў, штосьці вырашаў, раптам здаволена скокнуў з ложка і ад радасьці загаварыў:

-- Э-эх! Калі толькі пройдзе, калі толькі згода!

І Алесь здаволіўся. Яго думка прашла, з ім згадзіліся—яго паслалі працаваць у вёску.

— Цяпер будзе і спакой, і далей ад мяшчанства, і бліжэй да працы.

Хвалі калосьсяў папоўняць энэргіі, комсамольскі начлег загартуе, хата-чытальня—раскідаць зерне.

Так хлопцы й разлучыліся.

Прыехаўшы нейк на зьезд, Алесь даведаўся, што Нічыпар у Воршы на рабфаку. А пра Зіну й думка ў голаў ня прышла. Спаткаўшыся выпадкова ў коопэратыве, ён яе не пазнаў. Яна зьмянілася, стала страшная, высахла і з сьлязой расказвала ўсё тое самае—недалёкае, мінулае, сёньнешняе...

О, каб паглыбіцца ў бязьмежнасьць жыцьця, каб толькі акінуць вокам хоць адзін яго крок—яшчэ шмат „такіх Паўлюкоў“ можна знайсьці.

# НА КУРОРЦЕ

У горадзе ціха. Электрычныя ліхтары аблівалі вуліцы мяккім дрыжачым зьзяньнем.

Начную ціш прарэзвалі звонкія галасы маіх таварышоў.

Еду на курорт.

З вясёлаю нясьціхаючай гутаркай падышлі мы да вакзалу.

Таварышы ўвашлі са мной у вагон, усадзілі мяне, пагутарылі і вышлі.

— Пішы!—крыкнуў адзін з грамады.

— А як-жа, як толькі заеду.

— Шчасьліва, брат, табе,—на ўздагон кінуў таварыш,—бывай!

— Бывайце!—махаючы рукой праз акно, адказваў я,—бывайце...

Невялічкі свой клумак кінуў на лаву і пазіраю праз акно на белыя камяніцы, на сваіх сяброў. Думкі мае аблёталі ўсе знаёмыя куточкі, неяк стала жудасна, а разам з тым і прыемна.

Званкі...

Заплакаў цягнік сваім сьвістам... Крануліся... Паехалі...

Я прымайстраваўся на лаве, паволі прылёг, стаў разглядаць вагон, пасажыраў, і раптам мой погляд сустрэўся з поглядам маладой

прыгожай дзяўчыны. Яна сядзела на тэй-жа лаве, дзе і я, і пазірала на мяне.

Я пачуў сябе нялоўка, ссунуў з лавы свае хворыя ногі, аглядзеўся навокал і зноў нашы вочы сустрэліся.

Мне так хацелася з ёю пагаманіць, так хацелася, але ніяк ня мог адважыцца...

— Вы, мабыць, здалёку едзеце?

— Не, з Менску, адказаў я,—а што?

— Ды я так сабе. Вы па выгляду такі змарнелы...

— Бачыце, я хворы, еду лячыцца ў Ялту.

— Вас камандыравалі ці на свой кошт едзеце?—запыталася яна з шчырай зацікаўленасьцю.

— Еду па командыроўцы.

— Так. Гэта добра. А як хораша цяпер там... Будзеце любавацца вечна-шумлівымі неўгамоннымі хвалямі мора, будзеце ўпівацца надзвычайнай прыгожасьцю гор, дзіўнымі пералівамі птушак, седзячы на беразе мора ў цёплыя зорныя ночы, будзеце марыць аб шчасьці.

— Як я бачу, у вас поэтычнае сэрца,—прабарматаў я павольна зачарованым голасам.

— Не, я шмат чытала, шмат мне расказвалі аб поўдні,—нібы ў абарону адказала яна.

— Так, добра цяпер там...

Цягнік бег наперад, прарэзваючы дрыжачую цемру ночы.

Нашы суседзі ў вагоне ўжо спалі, толькі мы ўдвох, седзячы блізка адзін ад аднаго, гаманілі.

Крышку памаўчаўшы, я запытаўся:

— А вы куды едзеце?

Яна цяжка ўздыхнула і пачала гаварыць так ціха, як-бы баялася, што хто-небудзь пачуе вялікую таямніцу яе жыцьця.

— Еду ў Адэсу, да бацькоў.

— Вы не беларуска па нацыянальнасьці?— прымусіла мяне штосьці запытаць.

— Бачыце, я сама—беларуска, з Менску, але ў час грамадзянскай вайны я з бацькамі паехала ў Адэсу. Пазнаёмілася я там з чырвоным афіцэрам, вышла замуж, была шчасьліва, але... паслалі яго вызваляць наш край ад польскіх паноў. Я з ім паехала ў Смаленск. Пад Менскам мужа забілі. Цяжка прышлося... Мучылася я доўга, а цяпер бацькі напісалі, каб прыехала да іх.

Пракаціўся глухі станцыённы званок.

Усіх хворых, якія ехалі на курорт па камандыроўках, сабралі і адвялі ў санітарны вагон.

Дзяўчына засталася.

Ехаць разам з хворымі было ўжо зусім другое. Гутарка таксама была інакшая. Мае суседзі былі амаль што ўсе старыя і гаманілі толькі аб сваім здароўі, пра сваіх дзяцей. Мне гэта было зусім няцікава...

Праз некалькі дзён мы былі ўжо ў Ялце. Як прыгожа! Колькі хараства наўкола!..

Мора, скалы, вінаграднікі!..

Прышлі ў санаторыю...

Нас прынялі, накармілі, далі санаторную бялізну, адвялі мне ложак, і... я пачуў сябе ня зусім прыемна.

Раніцою павялі нас, хворых, у балота ля санаторыі. Гарачае балота... Палажылі мяне, абкінулі балотам і мне пачало здавацца радаснае,—мае ногі ня будуць больш скакаць без майго загаду.

Набегла шмат думак.

Але раптам стала млосна, закружылася галава, застукала сэрца. Ня вытрымаў гарачыні—закрычаў...

Паднялі мяне і адразу—у ванну. Тут мусіш праляжаць гадзіну. Пасьля занесьлі на ложак. Спавілі, як дзіцё, ручнікамі. Ляжу, пацею, а паршчык ходзіць, ручнікам выцірае мне пот.

Тут таксама праляжаў гадзіну.

Пасьля, эх! вала, здаецца, зьеў-бы, так хочацца шамаць, і, праўда, далі сытны полудзень.

Прагулка, поўгадзіны ў парку санаторыі, і зноў ўсё спачатку.

Як у катарзе, я прабыў там цэлы месяц. За гэты час я пазнаёміўся з Марынай, сястрой нашай палаты. Я яе пачаў прасіць, каб яна паклапацілася дастаць дазваленьне пайсьці за парк далей, пахадзіць па горах, пайсьці на мора...

Заўтра ў вечары мы з Марынай пашлі гуляць. Вандруем па горах...

Куды ні глянь—мора шумлівае, прасторнае і вабнае... А зелень, кветкі, песьні птушак!.. Нібы зачараваная крымская казка.

Селі мы на зялёным аксамітным узгор'і. Доўга гутарылі. Яна мне расказала пра гісторыю Крыму, пра санаторыю, пра сваё жыцьцё.

Я сядзеў і глядзеў з высі на мора, на зыбаньне хваль, на пекныя лёгкія чаўны, якія плылі каля берагу.

— Мне шкада вас,—прашаптала Марына,—мне шкада вас, вы такі маладзенькі і так цяжка хварэеце.

— Цяпер я чую сябе зусім добра! Хочацца ехаць дамоў.

— Што-о? Вам трэба яшчэ шмат лячыцца, каб паправіць як сьлед сваё здароуе,—дрыжаў клапатлівы голас Марыны.

Доўга мы сядзелі. Сонца нырнула ў мора, схавалася!.. Зоркі задрыжэлі на вяршынях Крымскіх гор. Цёплы вецер песьціў ваколіцу.

Я забыўся аб усім. Упіваўся шчырасьцю Марыны.

Моўчкі слухалі песьні цыкад...

Дні бягуць. Мы ўжо былі блізкімі сябрамі з Марынай. Кожны вечар ходзім па горах або катаемся на маторцы.

Мы так звыкліся, што й ня думалася аб разлуцы.

Седзячы раз у Марыны, я пачуў, што праз некалькі дзён будзе адпраўка хворых.

Мяне-ж пакідаюць, бо я яшчэ ня зусім вылячыўся. Я нявольна задрыжэў. Прад вачыма прабеглі: Менск, школа, знаёмыя... Здаецца, вось цяпер на крыльлях паляцеў-бы ў родны край.

Праз акно паглядала сонца. На горах дрыжэла серабрыстая раса.

Як толькі прышоў доктар, я яго ўпэўніў, што я ўжо зусім здаровы, і ён згадзіўся паслаць мяне дамоў.

Заўтра першая партыя, я ў першай партыі!

Сёньня не хадзіў ужо ні ў балота, ні ў ванну. Ахвотна складаў некаторыя свае рэчы, здаў санаторную бялізну, халат, адзеўся ў сваё і вышаў у парк.

Атрымаўшы дакуманты, я ня мог дачакацца раніцы.

У вечары, калі прыходзілася гаварыць з Марынай у апошні раз, я рваўся спаць, каб хутчэй прашоў час, каб хутчэй прышла раніца. Гутарка наша была непадобна да ранейшай.

Пачало шарэць. Горача разьвітаўся з Марынай.

Праз некалькі гадзін ля санаторыі стаялі ўжо „паздаравеўшыя“, разьвіталіся. Мне хацелася ўбачыць Марыну, але яна ня прышла.

Паехалі...

Праехалі мы тры з паловай дні.

Настрой ува ўсіх быў вясёлы.

Вось-вось праз некалькі гадзін і Менск.

Кожны з нас штосьці нецярпліва чакае. Кожны паглядае ў акно з нецярплівасьцю.

Зацягнулі песьню!.. Каб забыцца, каб хутчэй бег час.

— Менск відаць!—крыкнуў адзін з грамады.

І праўда, праз хвілін дзесяць цягнік быў у Менску.

Вышаў з вагона, іду ў горад. Раптам чую, хтосьці стукнуў па плячы:

— Здароў, брат!

— А-а-а... здароў! Што чуваць тут, як жывецца?

Тут падыходзяць яшчэ хлопцы і неяк ува ўсіх вырвалася радаснае:

— Ур-р-ра!..

— Ура-а,—адказваю я.

— Ур-р-ра!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маці будзіць мяне:

— Уставай! Чаго крычыш? Уставай!..

Я прачнуўся, не магу нічога ўцяміць, толькі чую голас:

— Уставай ды схадзі, можа пашлюць на курорт.

[redacted]

# ДВА ЛІПНЁВЫЯ ДНІ

## I

У бязладзьдзі, суматосе прашло жыцьцё двух дзён. Каляндар, як звычайна, спакойна казаў:

— Сёньня 10 ліпня.

Не пасьпела яшчэ сонца залязгаць капытамі-праменьнямі, як у Менску пачаўся грабеж.

Босаму нельга прайсьці па вуліцы.

Дробнымі кавалкамі шкла, як дыванам, убраны брук.

Крамы з узламанымі вокнамі...

Сваволяць сьпевы разгулу...

Каменьнямі, каламі падпірала брамы беднае жыхарства, але не абараніла—збіралі да кашулі...

Стогны, енкі мянчан глытаў дым, які валам расплываўся па вуліцах, нясучы з сабою--нядолю...

## II

Уцякаючы праз беларускія вёскі, палякі пазабіралі ў сялян апошнюю скаціну.

Прыгналі яе ў Менск, на вакзал. Сагналі ў вагоны, а вывезьці яе ў Пазнань — позна: партызаны. Цягнік газай аблілі, падпалілі...

Жывёліна, здабытая горкай працай селяніна, хрыплым, задушаным ад дыму голасам прасіла дапамогі...

Польскія салдаты з карабінак—па скаціне, каб спыніць яе енкі, каб спыніць яе дзікі, разрываючы сэрца плач.

Узьняўся агонь...

Запалаў Аляксандраўскі вакзал...

Жудасьць абхапіла Менск...

Не пасьпела мінуць поўгадзіны, як мост па Савецкай вуліцы кашлянуў узрывам.

Тут-жа, ля маста, стаяла шавецкая фабрыка „Арол". Рассыпалася яна цаглінкамі па маставой. Язык вогнішча спраўляюць баль крывавы...

Перакінуўся агонь на драўляныя хаты рабочых, запалаў квартал—Бабруйская вуліца.

А зьлева корчыцца ад разгулу вогнішча — лесапільны завод.

Менск у пажары...

Нібы п'яны, хістаецца дым, абвіваючы гоман няшчасьця.

Тлеюць Кашары...

Віленскі вакзал—разбураны, зруйнованы.

Вясёлая вуліца глуха раскідае трэск народнага багацьця: фабрыка-хлебапякарня палаючымі іскрамі раскідаецца.

Ламаюць крамы, рабуюць жыхарства... Сьпевы разгулу, горкія сьлёзы...

Гуляе вуліца...

## III

Ля Траецкай гары тлее дваццаць дамоў. Пажар узьняўся дзён некалькі назад.

Была ў Менску „ўлада“, абвясьціла загад—зачынілі вадакачкі, пажарнікі сталі бясьсільнымі.

А цяпер толькі дзе-ні-дзе, як з люлькі дзеда старога, пярсьцёнкамі віўся дымок.

На руінах бедная бабка, прытуліўшы галодных дзяцей, закапцелаю хусткай трэ вочы ад горкіх сьлёз.

Небасхіл пакрыўся малінавай істужкай і як-бы шаптаў:—сьветлае, новае, шчаснае...

## IV

Паволі, згорбіўшыся ад страху, прыпаўзла ў Менск ноч. Месяц памыкаўся глянуць на руіны, але хмары адціскалі за свае плечы.

З нецярплівасьцю чакалі ўваходу чырвоных...

Раптам—
Гарматы, кулямёт
Бліжай,
Бліжай...
Гоман,
Топат коняй,
Лязг аружжа,
Сьвіст...

Бадзёра йшлі чырвоныя. Вось адзін адстаў... Пакрыўся твар яго палосамі крыві...

Рука ўпілася ў вінтоўку. Рука застыгла... Чорная ад ручкі плуга, чорная далонь...

Я падышоў. З яго кішэні выняў дакуманты і ўбачыў—сын беларускага сяла: Андрэй, бацька Зьміцер, прозьвішча—Залескі, ад роду—22 гады.

І зноў узьняўся сьвіст ізноў лязг аружжа..

Палякі вышлі.

Прабегла першая лінія чырвоных.

V

Раніцой па вуліцах хадзілі рабочыя.

Кожны расказваў пра бурную ноч, кожны вітаў перамогу.

Віталі раніцу, шчыра, папросту віталі.

Ветрык узьняўся і як-бы гнаў усё панскае.

Песьні!

„За власть советов“...

Па Мікалаеўскай вуліцы ішлі чырвонаармейцы. У запыленых зялёных вопратках, маладыя, але змучаныя.

З песьняй увашлі яны ў Менск.

Яны стварылі новую старонку ў нашай старой гісторыі—

11 ліпня.

Горда мігаюць на вінтоўках чырвоныя сьцягі, з такімі-ж гордымі чырвонымі сьцягамі сустрэў іх чырвоны беларускі Менск.

VI

Андрэй Залескі быў . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .

# ЗАЦЯГНЕНА ТУМАНАМ

Зіма.

Першы, пасьля студзеня, месяц.

Вуліцы зацягнуты туманам.

Залівала гразь.

Плёхкаліся лужыны па каменьнях.

Пырскаў дождж.

Над горадам хмары качаліся.

Вецер падзьме мацней, закалоціцца хмарка і во-во разаб'ецца аб комін.

Паплесьнелі стрэхі драўляныя, сьцякаюць гнілымі кроплямі на зямлю.

Надвор'е хныкае, развальваецца, ные.

На рынку глуха: крамы пад замком.

Бяспрывычна, дзіка...

Ціша ў горадзе; ня радуе нас гоман, бурляць толькі рышткі; на бляшаных стрэхах прыбіты стук дажджу, і за горадам забрэша, на ланцугу, сабака.

Ля камяніцы туліцца ўкутаўшыся хлопчык. Весь мокры... Холадна, дрыжыць...

На вуліцы пустой, сярод чорных брудных лужын, адзін ён—бяспрытульнае забытае дзіцё.

Пішчыць гульліва, у падраных ботах, гразь; куртка ў дзірах ня грэе яго грудзі...

Сядзіць пакрыўджаны, галодны, бедны хлопчык і хочацца яму і ўжо памкнецца крыкнуць, але вецер хітры, вецер злосны...

Толькі вочкі—чорныя, маленечкія вочкі з-пад шапкі выглядаюць жывым і ясна-ясным аганьком.

Чаму няма яму жыцьцёвага прытулку? Чаму ён не на фабрыцы, за працай? Чаму з яго, сьмяецца вецер? Чым горшы ён? Чаму яму хлапцу гульлівай вуліцы, і вуліца прытулку не дае. А яго вочы, чорныя маленечкія вочы, яны так шчыра радасна сустрэлі-б водгульле жыцьця.

Адказам, як і раней гулі рыштκі, сьцякаючы ў рэчку, і той-жа стук, глухі каменны стук дажджу.

— Дзі-лінь-лі-лінь,—ускалыхнула вуліцу і гэтым як-бы ўліло кроплю здаровага жыцьця, абудзіла пачуцьці чалавека і вярнула яму бурлівасьць і імкненьне йсьці далей у рытм гымну працы.

— Дзі-лінь, дзі-лінь,—раздалося мацней на павароце.

Шыпелі рэйкі, падковамі зьвінелі коні, сьвісьцела пуга,—бегла конка.

Я пасажырам стаў...

Кандуктар усьміхнуўся...

А ў концы душна і цёмна без пары.

Кандуктар запальвае лямпу.

Ня ведаю, можа мне здалося, але кандуктар, што-б ён ні рабіў, дык—памаленечку, спа-

койна, паступова, ну, не раўнуючы, як конка, як на кастылёх.

А можа ён стары служака конкі і яе манеры пераняў сабе? а можа, гэтае разьбітае надвор'е пад свой уплыў прывабіла яго?

Сядзіш, трасе цябе, старанна падкідае і цягнецца, як змучаны жабрак.

Яшчэ хоць аднаго каня хай падчапілі-б, усё-ж паехалі-б хоць крышачку шпарчэй.

Я не сьцярпеў...

Злосна вылез з конкі і цьвёрдым крокам, па бруку, напрамік.

Ужо цямнела. На зямлю вечар неахвотна сходзіў... Абняўся з ім. Прыселі мы на прызьбе і слухалі, як шалясьцела ліпа, як сьлязу скідаў, заўжды вясёлы, сад.

Імжа сваволіла ў белых сецях.

Вуліцы зацягнены туманам...

## ПА КАМЕНЬЧЫКУ

Завывала поле...

Заросшае дзікім палыном. бязьмежнае
закінутае поле.

Неабдымныя лясы, пахіліўшы свае пацьвіўшыя верхаліны, сіратліва паглядалі ў дол.

Ня вабілі пералівам вечна жывых, вясёлых, жыцьцярадасных птушак: іх ня было.

Час ад часу ўзьвіецца сокал...

Зашчыміць яго сэрца.
Балюча зашчыміць.

Пальцы яго сьціснуцца з помстай, і ён, сабраўшы змучаныя сілы, голасна, перамагаючы боль у грудзёх, памкнецца крыкнуць,
памкнецца павярнуць кола сонечных праменьняў, каб абагрэць закінутае поле, даць вольнасьць і хараство жыцьця.

Але ўздымецца з усходу-захаду сіберны вецер, хіхікаючы ўзрывае слупы хворага пылу і навальніцай рвецца задушыць,
заглушыць голас сокала.

Зігзагамі лётае вецер, разносячы сьвіст бізуна...

... Сьціхае навальніца...
Стогнам гудуць лясы...

З цёмных хмар баязьліва спадаюць буйныя гарачыя кроплі.

Цёмныя хмары—людзкая бяда.
Гарачыя кроплі—сьлёзы людзкія.
Курганнае поле...
Імшары крыжоў...

Ня сьціхаў сокал! Яго не заглушылі, голас яго ня зьнік...

Бывала, пройдзе ноч.

На небасхіле ўсплыве раўчак крыві.

Усплёскі заліваюць сінь,
і небасхіл здаецца шырокай рэчкай чырвані, але зноў вецер, зноў заслонай—хмары, шэрае павуціньне расьцяжна ахіляе простор.

Вылятае сокал!
Вылятаюць сокалы!
Разьбіваюць хмары,
абуджаючы пачуцьці вызваленьня.

Зноў загудуць стагоднія лясы...
Зноў забурляць рэкі...
Зноў закалышуцца заўжды спакойныя, на балоце, хмурыя лозы; заплача галасам пакрыўджанай дзяўчыны, на ростані, стромкая хваіна.

Зноў навальніца!
Зноў віхура!..

І ў бурным голасе гэтай віхуры ты мог пачуць,
што: — Аб нашай долі—
На нашай ніве
Песьні жальбы
Іграе гусьляр...

А далёка, на чужыне, у палацах, увабраных чужым золатам, як кроўю, праходзіў гандаль
расійскага баярына з польскім панам.

Купля і продаж неабдымна-вялікага прастору, дзе лепшай кветкаю—
„расьцьвітае толькі палын“
і дзе можа пышна расьцьвітаць—
роза мазалістага шчасьця.

Гул лясоў і хрыплы голас топкіх балот валам стыхіі даносіўся да палацаў з гордым клічам:

— „Мы не прадаемся!“

А сокалы распалялі агонь...

Шляхам жыцьця яны парадзілі сваім прызывам-песьняю—малады, юнацкі, сьмелы паход за вызваленьне,
за вольнасьць,
сьветасьць!

Рабінавай ноччу гудзела паўстаньне і...узбудзіла здабыўшы жыцьцё! Абвіла яго звонкімі песьнямі радасьці.

Родная мова радасна б‘ецца ў сэрца сыноў здабытага жыцьця.

Раздаюцца ўдары молата.

З агністага горну рассыпаюцца залацістыя іскры і, разам з мэлёдыяй працы, абвіваюць вольна ўздыхнуўшыя хаты.

І цяпер чутно водгульле паўстаньня,—
гусьляр успамінае спадчыну.

А неба чыстае...

Сонейка ясна, з матчынай шчырасьцю абагравае родную ўзрастаючую рунь.

Кожная цаглінка, кожны каменьчык абліты шчырай цяжкай працай і надзеяй вялікае будучыны.

А шмат адкідышаў спадлоб'я паглядаюц і ўахвоту ім прадаць ізноў, ізноў загнаць, у нерат паднявольля і гэтым жыць у ласцы роскашы здабыць і, можа, гузікамі на мундзірах лязгаць...

Але магутнасьць вольнай працы і думка, што віецца ў гомане людзкім,—

баязьней іх зьвіла. Сядзяць цяпер пад прыпекам жыцьця, і толькі чуеш шэпты, яшчэ—

зубоў іх бразгатаньне.

Ня здолелі ўтрымаць сьцяну няволі чорнай цяпер паставіць зноў яе,—

О, не! Ня хопіць сіл!

# Зьмест.

| | Стар. |
|---|---|
| Сутарэньне . . . . . . | 3 |
| Паўло Пачачуй . . . . . | 22 |
| На курорце . . . . . | 32 |
| Два ліпнёвыя дні. . . . . | 39 |
| Зацягнена туманам . . . . | 43 |
| Па каменьчыку . . . . . | 46 |

---

# КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“.

ЦБ Усебеларускага Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“ выдае літаратурна-мастацкія зборнікі (вершы, апавяданьні, крытыка) разьмерам ад аднаго да двух друкаваных аркушоў.

Зборнікі прадаюцца ўва ўсіх лепшых кнігарнях і кіосках Беларусі, а таксама на галоўных станцыях чыгунак, якія праходзяць цераз БССР.

З друку вышлі:

1. **Міхась Чарот**—Выбраныя вершы.
2. **Ул. Дубоўка**—Там дзе кіпарысы (поэма).
3. **Кузьма Чорны**—Апавяданьні.
4. **Адам Бабарэка**—Апавяданьні.
5. **Язэп Пушча**—Раніца рыкае (вершы).
6. **Крапіва**—Асьцё (сатыры).
7. **Маладняк — Янку Купалу** (юбілейны зборнік).
8. **Сымон Хурсік**—Першы паўстанак (апавяданьні).
9. **М. Зарэцкі**—Пела вясна (апавяданьні).
10. **А. Якімовіч**—вершы.
11. **Кузьма Чорны**—Срэбра жыцьця (апавяданьні).
12. **Паўлюк Трус**—Вершы.
13. **А. Дудар**—Сонечнымі сьцежкамі (вершы).

---

